Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem. Цана 25 гр.

№ 4 (14) Вільня, 10 Жніўня 1935 г. Год III

# НОВЫ ШЛЯХ

ОРГАН БЕЛАРУСКІХ НАЦЫЯНАЛ-САЦЫЯЛІСТАЎ

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
Вільня, Балтупская 14 — 6. Wilno, Bołtupska 14 — 6.
Рэдакцыя адчынена штодня ад 10—3 г. дня.

„НОВЫ ШЛЯХ“ выходзіць раз у месяц, каштуе на год 2 зл. 50 гр. на паўгоду 1 зл. 50 гр. на 3 месяцы 70 гр.
Цана абвестак паводле ўмовы



## ВЫБАРЫ і НАШАЕ СТАНОВІШЧА

Справа з сёлетнімі выбарамі ў Сойм і Сэнат выявілася перад беларускім грамадзянствам зусім выразна.

Новы выбарны закон вытварыў такія абставіны, пры якіх толькі самаўрады і некаторыя арганізацыі, пераважна гандлёва-прамысловыя і прафэсыянальныя, зьяўляюцца цэеючымі фактарамі ў выбарнай акцыі. Рэшце грамадзянства пакінена пасыўная роля, а калі, напрыклад, і дадзена права выстаўленьня сваіх кандыдатаў, то пастаўлены такія вялікія труднасьці фармальнага парадку (як, напрыклад 500 подпісаў пасьведчаных нотарыюсам), якія фактычна анулююць гэтае права.

Нават і ў тым выпадку, калі-б да актыўнай выбарнай акцыі былі дапушчаны ўсе арганізацыі, якія толькі дзеюць у нашым краі, то і тут беларускаму грамадзянству прышлося-б паставіць сабе пытаньне, ці варта браць у ёй удзел, бяручы пад увагу немагчымасьць пры сучасных умовах нармальнага арганізацыйнага будаўніцтва, маючага беларускі нацыянальны характар.

Што-ж можна сказаць пра выбары, якія адбудуцца сёлета ў Польшчы?

Хіба-ж толькі адно, што нават каб мы й хацелі правесьці ў заканадаўчыя палаты свайго беларуса, які патрэбны беларускай справе, а не якога нам накінуць згары—гэтага зрабіць мы ня можам, дзякуючы цэламу раду прычынаў на каторых затрымлівацца ня будзем.

Браць-жа ўдзел толькі для таго, каб праводзіць сваімі галасамі тых, хто можа прыносіць беларускаму народу адну шкоду, або галасаваць за чужынцаў—на гэта ня можа пазволіць нам нашае нацыянальнае сумленьне.

Выпрашываць міласьці ад дэцыдуючых дзейнікаў і прасіць іх, каб не забыліся і пра нашых людзей, як гэта робяць расейцы — мы ня будзем, бо лічым, што здабыты тэтакім спосабам мандат ня варт падобнай фатыгі...

Узяўшы ўсё гэта пад увагу, беларускае нацыянальна-сьведамае грамадзянства прыняць удзелу ў сучасных выбарах ня можа.

Мы перакананы, што з гэтай прычыны беларускі нацыянальны рух не замрэ, а наадварот—ён прыме больш глыбокія і трывалыя формы.

Кожны народ, апынуўшыся ў умовах жыцьця падобных нашым, узмацняецца нацыянальна і грамадзка — і няма сумліву, што ўзмоцнімся й мы...



## Пастанова Бел. Нац. Камітэту

у Вільні 24. VII. 1935 году ў справе выбараў у польскі Сойм і Сэнат сёлета ў м-цы верасьні.

Беларускі Нацыянальны Камітэт, як прадстаўніцтва беларускага незалежнага грамадзянства пад Польшчай, якое стаіць на нацыянальным грунце, на сваім агульным сходзе 24 ліпня 1935 г., разгледзіўшы справу выбараў у польскі Сойм і Сэнат, якія адбудуцца сёлета ў верасьні, сьцьвярджае, што новы выбарны закон між іншым:

1) агранічвае агульнае, роўнае і беспасрэднае выбарнае права грамадзян, не даючы выбаршчыкам права беспасрэдна падаваць сваіх кандыдатаў на паслоў у дзяржаўныя заканадаўчыя палаты;

2) не дае права галасаваць у выбарах у Сэнат шырокім працоўным масам — сялянам і работнікам, якія ня маюць вышэйшай асьветы або асабістай заслугі ў польскім гаспадарстве;

3) новы выбарны закон гэткім правам пазбаўляе 2,500,000 Беларусаў у граніцах Польскай дзяржавы беспасрэдна пасылаць у дзяржаўныя заканадаўчыя палаты сваіх прадстаўнікоў, якія належна баранілі-б там права Беларускага народу ў Польшчы.

Дзеля вышэйсказанага, Беларускі Нацыянальны Камітэт у Вільні пастанаўляе: сваіх кандыдатаў на паслоў у Сойм і Сэнат не падаваць і агулам у выбарах у Сойм і Сэнат у м-цы верасьні 1935 г. ніякага ўчасьця ня прыймаць.

За Агульны Сход Беларускага Нацыянальнага Камітэту

(—) **Я. Пазьняк** Старшыня К-ту

(—) **Ул. КазлоЎскі** Сэкратар К-ту

## Да ідэалёгіі нацыянальнага сацыялізму

Як рэакцыя проці інтэрнацыянальнага марксоўскага камунізму вытварылася на сьвеце новая ідэолёгічная сіла — нацыянальны сацыялізм, каторы ў Нямеччыне кіруе ўсім палітычным жыцьцём.

Сьвет увайшоў у такую гістарычную эпоху, калі популярны некаліcь сярод працоўных марксызм уступае сваё мейсца нацыянал-сацыялізму, маючаму больш шырокія гістарычныя пэрспэктывы і заданьні.

Па сваёй сутнасьці нацыянал-сацыялізм зьяўляецца рэвалюцыйнаю сілаю, каторая прывядзе да вельмі глыбокіх і радыкальных зьменаў ва ўсіх галінах грамадзкага, культурнага і палітычнага жыцьця людзей.

Не для таго ён нарадзіўся і разьвіваецца, прайшоўшы крывавую фазу барацьбы, як гэта было ў Нямеччыне, каб усё на сьвеце засталося па-старому і каб там панавалі тыя самыя крыўдныя для большасці і неразумныя парадкі.

Нацыянал-сацыялістычная рэвалюцыя мае сваю праграму, зрэалізаваньне каторай прывядзе да ўтварэньня больш справядлівых суадносінаў, пры якіх перадусім не павінна быць мейсца для эксплёатацыі адных народаў іншымі.

Гэтая эксплёатацыя, як паказала нам гісторыя, мае першараднае значэньне. Асабліва яна „даецца ў знакі“ народам недзяржаўным і паняволеным, аб чым, між іншым, беларусам павінна быць дакладна ведама.

Камуністы і сацыялісты марксоўскай школы не адводзяць гэтай справе адпаведнага мейсца і, напрыклад, у Саветах самі душаць і эксплёатуюць нацыянальныя меншасьці нават у горшай ступені, чымся гэта робяць іншыя дзяржавы.

Дзеля гэтага найгалаўнейшым для нас з галіны палітычнай ёсьць дзяржаўная незалежнасьць, пры каторай Беларускі народ разаўе ўсе свае духовыя і грамадзкія вартасьці. У барацьбе за гэтую справу нац. сацыялісты павінны апынуцца ў авангардзе свайго народу, ідучы да пастаўленай мэты бескампрамісова і рашуча, ня гледзячы на ахвяры. Апрача пытаньняў элемэнтарна-палітычных перад намі ўстае цэлая прорва спраў сацыяльна-эканамічных і грамадзкіх, каторыя павінны быць вырашаны ня так, як іх вырашае камунізм, зусім ня лічучыся ні з прыродаю людзкой адзінкі, ні з яе патрэбамі. Нацыянал-сацыялізм мусіць перабудаваць сьвет у такі спосаб, каб у ім былі створаны ўсе магчымасьці да гарманійнага поступу чалавека, як разумнай і пануючай на сьвеце істоты.

Ня можам мы гэтую істоту ўціскаць у рамкі, каторыя затрымлівалі-б яе інтэлектуальны і маральны поступ, як гэта робяць тыя-ж камуністы, зьвяртаючы ўвагу тольк на зборкі людзкіх адзінак, мэханічна злучаных у камунах і розных іншых аб'яднаньнях, як бульба зьвязаных у адным мяшку

Лічучыся з нацыянальнаю індывідуальнасьцю паасобных народаў, мы мусім лічыцца і з індывідуальнасьцю кожнай людзкой адзінкі, паскольку гэтакая індывідуальнасьць ня стане ў супярэчнасцьць з дабром усей нацыі.

Бяручы гэта пад увагу, нацыянал-сацы-

ялізм перабудуе сьвет на больш дасканальных і прогрэсыўных асновах, чымся ўстарэўшы марксоўскі сацыялізм, які зусім не надаецца да творчай і рэконструкцыйнай ролі.

Імкнучыся да перабудовы сьвету на новых падставах — нацыянал - сацыялізм запраўды яго перабудуе, ня гледзячы на тое, што гэткая перабудова будзе непажаданаю, як для пануючых клясаў, так і паасобных народаў-эксплёататараў.

Капіталізм мусіць быць зьнішчаны, а на яго мейсцы павінен устанавіцца такі сацыяльна-эканамічны лад, каторы між іншым, ня ўстрымліваў-бы ні прыватнай ініцыятывы, ні агульна гаспадарчага поступу.

Мы перажываем эпоху кананьня капіталізму ў Эўропе: пройдзе яшчэ адна „бура з навальніцаю“ і ён сам праз сябе развальіцца.

На ягоных руінах пабудуецца пад кіраўніцтвам нацыянал-сацыялістаў новы лад.

Побач з руінаю капіталізму і стабілізацыяю сацыялістычнага ладу ўстане перад адрадзіўшыміся народамі (у тым ліку і перад беларусамі) жыдоўскае пытаньне.

Фактычна жыды ператварыліся ў дадатак да капіталістычнай сыстэмы, захапіўшы ў свае рукі ўсе гаспадарчыя функцыі (а нават і палітычныя), якія злучаны з гэтаю формаю гаспадараваньня.

Як толькі на мейсцы капіталізму пачне будавацца новы эканамічны лад—жыдом ня будзе што рабіць, бо мы перакананы, што нацыянальная сьведамасьць усіх аздаравеўшых народаў, а ў тым ліку і беларускага, — не дапусьціць да таго, каб яны кіравалі ўсімі справамі, як гэта наглядаецца ўсюды, а з асабліваю яскравасьцю ў Саветах, дзе яны зусім адкрыта захапілі вышэйшую ўладу.

У сілу гістарычнай неабходнасьці жыдом прыдзецца будаваць недзе сваю собскую дзяржаву, пакінуўшы тыя краі, дзе яны цяпер пражываюць.

Ад выезду жыдоў з нашых земляў Беларускі народ нічога не страціў-бы, канфіскаваўшы на агульна-грамадзкія мэты ўсе жыдоўскія багацьці, якія паўсталі дзякуючы вяковай эксплёатацыі беларусаў.

Вось тое, да чаго імкнецца нацыянальны сацыялізм і гэта можа і павінна захапіць кожнага беларуса, каторы мае ў сваёй душы нацыянальнае сумленьне і патрыятызм.

**Ф. Акінчыц.**

# Nacyjanalnaja prynależnaść

*Narodam* abo — kali skażam łacinskim słowam *nacyjaj* jość psychična asobnaja ludzkaja hramada. Psychičnaja asobnaść wytwaryłasia tysiačahodździami. Mnoha było pryčynaŭ jaje wytwareńnia. Adnej z najważniejšych byŭ etničny (antropolohičny, rasawy) skład. Adnyja narody paŭstawali dyferencyjacyjaj i indywidualizacyjaj čaści jakojś isnujučaj užo rasy, druhija ŭtwarylisia źlićciom roznych etničnych masaŭ. U pieršym i druhim prypadku paŭstała nowaja asobnaja rasa.

Hetak, ci biełarusy paŭstali razwojem, indywidualizacyjaj haliny sławianskaje rasy-ci złučeńniem čaści sławianaŭ z čaściaj bałtaŭ — zaŭsiody wytwaryłasia asobnaja biełaruskaja rasa, ci — načaj kažučy — psychična asobnaja całaść — narod — nacyja.

Psychičnaja, jak i kožnaja inšaja asobnaść prajaŭlajecca nawonki. Najdaskanalšymi prajaŭleńniami psychičnaje asobnaści jość mowa. Tolki asobny psychičny typ moža wytwaryć asobnuju mowu. I naadwarot: asobnaja mowa jość znakam asobnaje psychiki narodnaje, znakam asobnaści nacyjanalnaj.

Znak moža ściercisia, možna zabycca rodnaje mowy, abo jaje nie nawučycca, možna na't nia wiedać swaje prynaležnaści da taho, ci inšaha narodu, nawat bolej — možna čuracca swajho narodu, być jahonym niepryjacielam, ale zaŭsiody budzieš nалежyć da jaho, bo ty kość z kości jaho i kroŭ z krywi jaho, bo ty malusieńkaja makulinka jaho wializarnaje psychičnaje i kroŭnaje całaści. Chоćki—niachоćki my źwiazany krywioj i tysiačami niawidnych niciaŭ psychičnych z ciapierašnimi i daŭno minułymi pakaleńniami swajho narodu. Ci-ž moža chto zrabić, kab baćki i braty jahonyja pierastali być jamu swaimi? Moža jon stacca, praŭda, *błahim* synam i błahim bratam, ale žaŭsiody zastaniecca i synam i bratam. Hetak i z nacyjanalnaj prynaležnaściaj: nie ad nas jana zaležyć. Ale kožan jość abawiazan dawiedacca da jakoha narodu jon naležyć, dy ščyra spaŭniać swaje nacyjanalnyja pawinnaści.

Wialikaja trahedyja Biełaruskaha narodu, što niekatoryja jaho syny nia wiedajuć chto jany, čurajucca swajho narodu i pamahajuć čužyncam ździekawacca nad im. Ale jašče horšaja trahedyja tych niaświedamych biełarusaŭ, što hetak robiać. Heta-ž usioroŭna jak-by jany irwali cieła swajo i tačyli kroŭ swaju na korm źwiaratam, hubili dušu swaju,- usioroŭna, što imknulisia- b da swaje asabistaje śmierci.

**Ščyrak.**

ХТО ЧЫТАЕ „НОВЫ ШЛЯХ“ НЕ АПЛАЦІЎШЫ ПАДПІСКІ, ТОЙ ВЫКАРЫСТОЎВАЕ ЧУЖУЮ ПРАЦУ І ВЫЯЎЛЯЕ СВАЮ ГРАМАДЗКУЮ НЯБЫРАБЛЕНАСЬЦЬ.

# Nacyja

„Nacyja heta štoś bolej za tych, što chočuć siahońnia rabici jaje historyju. Heta wialikaja supolnaść tych, što żywuć i tych, što żyli. Henyja apošnija — kudy šmatlikšyja ad pieršych i — nia ŭsie ad ich durniejšyja. Jany nia ščeźli na wieki z našaha życcia. Zychodziačy, z histaryčnaj areny, jany pierakazali dzieciam i ŭnukam swaje pohlady, idei i mety, jakija ździejśniajucca zwyčajna nie adnej heneracyjaj. Zmahajučysia i ŭmirajučy za nacyjanalny ideał, jak jany jaho razumieli, jany, henyja pamioršyja, pakinuli naščadkam wialikuju kolkaść mrojaŭ, parywaŭ, zmahańniaŭ, spohadaŭ sławy i pryračeńniaŭ pomsty, wializarnuju siłu kaliś aktyŭnaj narodnaj enerhii, što moža i woščupkam ale ŭparta kirawałasia da asiahnieńnia nacyjanalnaje mety: całuju symfoniju idejaŭ, u jakich urażliwaje wucha znojdzie swoj sens, rad adarwanych upływaŭ, u jakich dumajučy palityk wywiadzie ideał nacyi."

(D. Doncew: „Da starych bahoŭ." „Вісті" №42.)

# Беларуская вёска і горад

Беларускі народ складаецца пераважна з сялянства і дзеля гэтага матэрыяльныя і культурныя ўмовы ягонага жыцьця залежаць ад таго палажэньня, у якім апынулася вёска.

Пры існуючым стане рэчаў там запанаваў усебаковы і безнадзейны крызыс, які сур'ёзна пагражае самаму існаваньню Беларускага народу.

Горад зьяўляючыся цэнтрам промыслу і гандлю і захапіўшы ў свае рукі справу рэгуляваньня цэнаў на ўсе прадукты сельскай гаспадаркі, — заўсёды эксплёатаваў вёску.

У апошнія гады такая эксплёатацыя асягнула самыя крайнія межы.

Дзякуючы гэтым абставінам на вёсцы ня толькі не наглядаецца ніякага ні гаспадарчага, ні культурнага поступу, а наадварот усё выразьней даецца прыкмеціць рэгрэс, каторы можа прывесьці вясковае насельніцтва да зоолёгічнага стану існаваньня.

За гэта прамаўляе шмат якіх абставінаў, каторыя самі лезуць у вочы і каторыя даволі падробна высьвятляліся ў беларускай прэсе. Сюды трэба залічыць такія паважныя зьявішчы як беззямельле і беспрацоўе, катастрафальна нізкія цэны на прадукты сельскай гаспадаркі, поўная адсутнасьць элемэнтарных культурных умоваў жыцьця, а нават такіх рэчаў як мэдыцынская помач і г. п.

Вёска зусім выразна церпіць ад голаду як фізычнага, так і культурнага, падаючы ў нейкую цёмную прорву...

Ня трэба быць прарокам, каб прадбачыць, да чаго гэта ўсё давядзе.

Мы стаімо перад паважнаю пагрозаю перасуненьня ў псыхіцы нашага народу нацыянальных і культурна-грамадзкіх пытаньняў на задні плян і апанаваньня гэтай псыхікі „ідэолёгіяю" камунізму-падзелу, які ёсьць нічым іншым як грамадзкім бандытызмам.

З другога боку, сярод мора абнішчэўшых беларускіх вёсак мы наглядаем жыдоўска-польскія гарады і мястэчкі, каторыя як тыя павукі сьцягваюць да сябе ўсе жывыя сокі з вясковага насельніцтва.

Там жывуць людзі, каторыя ў параўнаньні з вясковым жыцьцём карыстаюцца з роскашы, маюць добрыя кватэры, усе культурныя прылады, уключна да радыёапаратаў, паядаюць усё найлепшае, што дае ім вёска, каторая агранічвае сябе ў самым неабходным.

Калі прыглядзецца да ўсей той „хітрай мэханікі", якая дзее паміж вёскаю і горадам, то перадусім кідаецца ў вочы тая акалічнасьць, што галоўнаю пружынаю зьяўляецца тут моцна арганізаваны гандлёвы капітал, згуртаваны пераважна ў жыдоўскіх руках.

Нельга ня прыкмеціць і таго што існуючы бюракратычны апарат адыгрывае ў грамадзкім жыцьці другарадныя ролі, ідучы пераважна па лініі патрэбаў гандлёвага капіталу. Гэты апарат зьяўляецца фактычна пасярэднікам паміж вёскаю і горадам, дзеючы на карысьць гэтага апошняга і на шкоду вясковага насельніцтва.

Гаворучы больш выразна, справа зводзіцца да таго, што бюрократычны апарат коштам вёскі памагае ўзбагачвацца гораду, пакідаючы кожнага „першага" нешта й сабе, што аднак, доўга не трымаецца ў кішэнях урадоўцаў, а пераходзіць да гандляроў і спэкулянтаў.

На гэтым і палягаюць, галоўным чынам, сучасныя ўзаемаадносіны паміж горадам і вёскаю.

Трэба яшчэ прыкмеціць, што высмактанае з вёскі дабро пераганяецца ў манэту, якая, між іншым, уцякае з нашага краю разам з тымі жыдамі, каторыя выяжджаюць у Амэрыку, а апошнім часам у Палестыну і Афрыку.

Гэткі стан рэчаў доўга цягнуцца ня можа і пры ім мусіць наступіць такі момант, калі са збанкрутаваўшага і зруйнаванага ся-

лянства ня будзе чаго пацягнуць. Тады гандлёвы капітал закончыў бы сваю „гістарычную" місыю, якую ён мае ў нашым краі.

Так абстаялі-б справы ў тым выпадку калі-б на перашкодзе да разбураючай і эксплёатацыйнай працы гандлёвага, а побач з ім і ліхвярскага капіталу не стаяла нова-вытвараная грамадзкая сіла ў постаці дзеючага нацыянал-сацыялізму, каторы спыніць гэты працэс і перабудуе сьвет на больш разумных і справядлівых падставах.

Побач з упарадкаваньнем пытаньняў сацыяльна-эканамічных будзе ўпарадкавана жыцьцё нацыянальнае паасобных народаў.

Беларускі народ атрымае тады ўсе магчымасьці да свайго нацыянальнага і гаспадарчага адраджэньня. Тады толькі ажыве і беларуская вёска, выявіўшы ўсё багацьце сваіх здольнасьцяў і сілаў, якімі абдаравала яе прырода.

С. Булат.

# U sprawie Biełaruskaha Nacyjanalnaha Kamitetu

U swoj čas my pisali, što z čarhowym abnaŭleńniem Biełaruskaha Nacyjanalnaha Kamitetu pawinien abnawicca i jahony prezydyjum, siabry katoraha nie pawinny mieć nijakich zakidaŭ ani z boku hramadzkaha ani nacyjanalnaha i kab u siabry K-tu pa mahčymaści nie pryjmać daŭžejšy čas biazdziejnych arhanizacyjaŭ; pry hetym my wyjawili zaściarohu adnosna hr. hr. W. Bahdanowiča i F. Jaremiča.

Sioletniaje abnaŭleńnie BNK pajšło pa lini i našych pažadańniaŭ. Ale heta nie padabałasia jak raz tym, jakija nia majučy aŭtarytetu ani ŭ siabroŭ K-tu, ani naahuł u biełaruskim hramadzianstwie — chacieli-by zasiadać u prezydyjumie K-tu. Jany wyjawili pretensyju čamu ahulny schod K-tu nia wybraŭ ich u prezydyjum, čamu ich „zmajoryzawaŭ".

Pry hetym jany čulisia tak niałoŭka, što byli zmušany paśla wyjści z siabroŭ K-tu i ŭ hetaj sprawie wydać na swaje „usprawiadliwieńnie" adnadnioŭku „Wyjaśnieńni". Hetaja adnadnioŭka całkom paświečana biełaruskaj Chadecyi i my zusim jeju nia cikawilisia-b, kali-b jana miž inšym nie parušała sprawy B.N.K-tu, jakoha našaja hrupa jość siabram. Heta zmušaje nas zabrac hołas u sprawie „Wyjaśnieńniaŭ" i padčyrknuć šmat niefarmalnaściaŭ i biespadstaŭnych pratensyjaŭ hr. hr. W. Bahdanowiča i F. Jaremiča u adnosinach da B.N.K-tu i ichnich sobskich „partyjaŭ".

Naŭpierad farmalna: F. Jaremič nia moh wystupać z K-tu, bo jon na 1935-6 hod nie zjaŭlaŭsia siabram K-tu, bo jahonaja „partyja" Sialanski Sajuz nie dała jamu na heta paŭnamoctwaŭ. A što hetaja partyja dahetul jasče nia prysłała swaich pradstaŭnikoŭ u K-t i naahuł nie zabrała ŭ sprawie K-tu i swajho partyjnaha siabry F. Jaremiča hołasu — świedčyć ab tym, što ŭžo daŭžejšy čas „Sialanski" Sajuz nie isnuje.

Toje samaje jość i z „Prawasłaŭnym Abjednańniem" W. Bahdanowiča, katory adnak

# ЛЯВОН

Вольна на сваей зямлі гаспадарыў Лявон. Перад ягонай сілай уступалі непраходныя пушчы і пертвараліся ў ураджайныя палі. Ад ягонай працы красаваліся збожжам палеткі і рунелі сенажаці.

Рупліва даглядаў Лявон свае родныя гоні і мазалістымі далонямі песьціў свае палеткі, дабываючы з іх сабе і сваей сямейцы кусок чорнага штодзеннага хлеба. Сэрцам і душой любіў ён сваю гаспадарку і быў шчасьлівы.

Прышлі злыя суседзі. Яны забралі Лявонаву гаспадарку, дзяцей і братоў ягоных парабілі парабкамі, а самога яго прагналі з роднай хаты.

Дужы быў Лявон і дужыя былі браты ягоныя. Але загубіла іх іхняя мляўкасьць сэрца, іхняя ўступлівая душа.

— Бараніце сваю зямлю! Ня йдзіце ў няволю! Праганяйце ворагаў! — казала ім прыродная жыцьцёвая сіла. Але душа і сэрца іхняе былі апанованы духам рабскай мляўкасьці. І дух гэны казаў ім: „Ня стаўце заядлага апору злому..." „А хто-бы цябе прымушаў тысяча крокаў — ідзі з ім яшчэ раз столькі..." „Як хто табе дасьць у шчаку — падстаў яму другую..." „А хто-бы дзеля сукні хацеў цябе вадзіць па судох — адступі яму і плашч..." „Багаслаўленыя ўбогія ў духу..."

І Лявон адступіў. Стаўся убогі духам. Ягоныя дзеці, браты і сёстры цягнулі цяжкую лямку няволі; потам і крывёю аблівалі родную зямліцу, працуючы на сваіх злыдняў.

Калі Лявону захацелася есьці, ён пайшоў у лес, сеў там пры рухлівай дарозе і выцягнуўшы рукі прасіў міма праходзячых.

Зьвяры і птушкі, абачыўшы так дужага, здаровага і маладога жабрака, не маглі надзівіцца з гэткай супроцьпрыроднай зьявы і з агідай паглядалі на сідзячага чалавека. Калі Лявон падняў у гару вочы, абачыў як вялікі арол хлынуў з гары на пралятаючага галуба, злавіў яго ў капцюры, сеў на горцы, пачаў смашна есьці яшчэ цёплае галубінае мяса і, кіруючы зрок на Лявона, казаў:

— Трэба запраўды чалавекам стацца, каб упасьць так нізка: маючы гэткую сілу, здароўе і маладасьць — ня браць, а прасіць. На што яму дала прырода сілу? На што яму

jość u trochi lepšych abstawinach, bo majučy poŭnaletniaha syna — kazaŭ jamu być sakratarom swajej „partyi“ i, uwajšoŭšy z im u K-t, mieŭ aspiracyi być wybranym u jahony prezydyjum. Kali-ž jahonyja aśpiracyi nia ździejśnilisia — zajawiŭ, što jaho „zmajoryzawali“.

Skażycie, kali łaska: na asnowie jakoha rehulaminu abo demokratyčnaha parlamantarnaha zakonu „partyja“, što składajecca tolki z baćki i syna moža mieć pratensyju, kab jaje nie zmajoryzawali? Jakim prawam mozna kazać siabrom K-tu, kab jany pry tajnym hałasawańni padawali hałasy na taho, na kaho jany nia chočuć?

Hr. W. B. u „Wyjaśnieńniach“ kaža, što ŭ B.N.K-cie „nie pawinna być majoryzacyja (panawańnie pry pomačy bolšaści“).

Dyk jak-ža? — choča hr. W. B., kab u K-cie było „panawańnie“ pry pomačy mienšaści? U takim wypadku K-t byŭ-by nie reprezentantam biełaruskich dziejnych żywych zmahajučychsia siłaŭ, a byŭ-by zboryščam paasobnych asob, jakija nia majučy za saboj hramadzianstwa — chacieli-by zasiadać u prezydyjumie K-tu; byŭ-by reprezentantam ludziej „uzaimnaj adoracyi“ — reprezentantam mlaŭkaści a nia dziejnych siłaŭ. Kali siła zmajoryzuje słabaść, dyk słabaść henaja pawinna dumać jak-by zrabicca siłaj.

„Wyjaśnieńni“ zakidywajuć, što B.N.K. jość pad hehemonijaj Biel. Chadecyi. U peŭnaj miery heta jość praŭdaj; ale heta jość naturalnym źjawiščam, wynikajučym z rehulaminu K-tu. Heta jość dziakujučy tamu, što jana maje pad swaim upływam šmat arhanizacyjaŭ — ci każučy prosta jość najsilniejšaj lehalnaj partyjaj u Zach. Biełarusi. Upłyŭ jaje ŭ K-cie budzie datul, pakul nia ŭsilacca inšyja partyi. I heta ŭ budučyni napeŭna budzie. Ale ciapier niama siły i maralna - praŭnaj padstawy wymahać ad siabroŭ Chadecyi i spačuwajučych joj, kab jany hałasawali za ludziej im niepażadanych.

Sytuacyju B.N.K-tu za časoŭ zachapleńnia jaho Hramadoj i tahdyšnija ŭ im padziei nielha zwalwać na „majoryzacyju“ jak takuju, jak heta chočuć hr. hr. W. B. i F. J. Tady Hramadzie išło ab razwał K-tu, jak nacyjanalnaj ustanowy, jakaja stajała na pieraškodzie metam KPZB (Kamunistyčnaj Partyi Zach. Biełarusi), filijaj katoraj źjaŭlałasia Hramada. Kali-b jana była samastojnaj niezaležnickaj arhanizacyjaj, dyk jejnaja hehemonija nad kamitetam była-by zasłużanaj i wytłumačanaj.

Jak niekatoryja ludzi nia mohuć zrazumieć najelementarniejšych rečaŭ, chaj pasłużyć prykładam razważańnie hr. M. Mancewiča. Jon ćwierdzić, što sprawazdača z dziejnaści K-tu nie adkazwaje praŭdzie, bo „Prezydyjum nia wyjawiŭ nijakaj dziejnaści ŭ napramku arhanizacyi. Uwachod u Kamitet T-wa „Pčała“ i redakcyi „Biełaruskaja Boroć“ nia jość wynikam staraŭniaŭ u hetym napramku Kamitetu, jak heta padadziena ŭ sprawazdačy. Arhanizacyi hetyja ŭwiedzieny ŭ Kamitet wyklučna mnoju“. („Wyjaśnieńni“).

Jak bačycie, pawodle hr. Mancewiča, kali wicestaršynia Kamitetu (jakim byŭ tady sam Mancewič) pryčyniŭsia da ŭwiadzieńnia ŭ Kamitet niekatorych arhanizacyjaŭ, dyk pawodle razumieńnia M. M. nielha skazać što heta zasłuha Prezydyjumu, a kaniešna treba padčyrknuć, što heta zrabiŭ Wicestaršynia Prezydyjumu.

Praŭda, hr. M.M. byŭ drennym Wicestar-

---

зрок і розум, калі ўсё гэга ён так марнуе!?

— Дурны-ж ты, Лявоне, калі думаеш знайсьці жаласьць у прыродзе, — казала лісіца смашна заядаючы птушку, злоўленую спадцішка ў кустох.

— Цяр-пі, цяр-пі - ня выцярпіш! Прасі, прасі — ня выпрасіш! — шчабяталі ластаўкі, пражорліва хапаючы наляту мухі і камары.

— Глянь-нь-нь-нь як трэба! — дундзеў камар на вуха Лявону і смактаў ягоную кроў

— Як ніс-с-с-ка ўпаў чалавек, — шыпела зьмяя, душачы злоўленую мышку.

— Разлажысты стары дуб шырака разгарнуў свае галіны, каб закрыць сонца стаўшым пад ім кволым кусьцікам. Ён заглушае іх, каб яны не забіралі з зямлі патрэбных яму сокаў. Шуміць стары дуб, глядзіць на Лявона і задумываецца над гэтай супроцьпрыроднай зьявай: сільнае, здаровае і разумнае стварэньне просіць ласкі, каб ня ўмерці з голаду.

— Такі малады і здаровы, а просіць! — казалі праходзячыя міма людзі, ківаючы галавамі, і нічога не давалі Лявону.

— Рабі так, як я: не прасі, а бяры! Ня будзь жабраком! Схамяніся! — крычаў з гары арол.

— Праўда, праўда! — шумеў лес!

— Але, але. — патаківала прырода...

Схамянуўся Лявон. Устаў бадзёра. Выпраставаў свае шырокія грудзі і зрокам волата пaглядзеў уздоўж дарогі. Па дарозе ехаў чацьвёркаю адзін з тых, што забралі Лявонаву гаспадарку, што ягоных дзяцей, братоў і сёстраў парабілі нявольнікамі, што выгналі Лявона з ягонай хаты.

— Шкада мне цябе, Лявоне, ідзі да мяне і працуй, так як робяць твае браты і сёстры. Я цябе за тое карміць буду, сказаў пад'ехаўшы ажырэлы крыўдзіцель.

Лявон маўчаў. Яго ўжо пакінула рабская пакора і мляўкасьць. У душу ягоную ўвайшла тая бадзёрая, прыродная сіла, якая кажа арлу дзёрці галуба, ластаўкам хапаць жывыя мухі, камару смактаць кроў.

— Вон з маіх палеткаў. або тут табе сьмерць! — крыкнуў Лявон, падскочыўшы да свайго гнабіцеля і сціснуў яго за горла.

— Прыйшоў да розуму! — сказала лісіца.

— Ужо годны нашага роду! — крычаў арол.

— Ужо не памрэ ён з голаду! — цьвердзіла прырода.

šynioj, bo staraŭsia ŭwiaści ŭ Kamitet nowyja arhanizacyi nie dziela ahulnaha biełaruskaha dabra, a wyklučana dla zadawaleńnia swaich sobskich imknieńniaŭ, da čaho ščyra pryznajecca ŭ „Wyjaśnieńniach“: „nia budu skrywać, što hetym ja chacieŭ pawialičyć u Kamitecie niechadecki łahier.

Pamima ŭsiaho hr. M. M. mieŭ na heta poŭnaje prawa, wynikajučaje z rehulaminu K-tu, i wielmi škada, što jon zaharačysia i nia prawodziŭ swaich imknieńniaŭ daŭžej, bo pry dziejnaj pracy i stwareńni nowych niezaležnych arhanizacyjaŭ—u Kamitecie mahła-by być niechadeckaja bolšaść, što ŭ budučynie napeŭna i staniecca.

M. M. swaich imknieńniaŭ nie dawioŭ da kanca i pajšoŭ za namowaj adżyŭšych swajo ludziej hr.hr. F. Jaremiča i W. Bahdanowiča, jakija budučy ŭ Kamitecie adzinokimi šukali sabie jakich-niebudź abaroncaŭ.

*Uł. K.*

## „АД ВЕКУ МЫ СПАЛІ і НАС РАЗБУДЗІЛІ“...

Гэтакімі славамі пачынаецца беларускі верш, катораму многія хацелі-б надаць павагу беларускага нацыянальнага гімну.

Якою ў запраўднасьці мусіць быць нацыянальная песьня, каб мець такое значаньне?

Нам здаецца, што кожны нацыянальны гімн павінен выяўляць пачуцьцё нацыянальнай сілы, выклікаць бадзёрыя настроі і мець, перадусім ідэёвы і захопліваючы зьмест, каторы запраўды мог-бы адушавіць чалавека і падняць у ім патрыятычныя настроі.

Ці можна лічыць, што „ад веку мы спалі“ адпавядае ўсім гэтым вымогам?

На нашу думку, думку маладой генэрацыі беларусаў, песьня гэтая на гімн зусім не надаецца.

Некаторыя сказы ў ёй ня толькі грашаць камунізуючым анахронізмам, але пазбаўлены нават элемэнтарнай эстэтыкі.

Не гаворучы ўжо пра косы і сярпы, каторыя ў сучаснай вайне нічога ня варты там ёсьць і такія словы, каторыя паніжаюць ваш нацыянальны гонар:

„Усюды ганяюць, усюды сьмяюцца
Ну проста, хоць крыкні ратуй“...

Гэтакую песьню трэба разглядаць як звычайны бальшавіцкі верш (прыгэтым уложаны вельмі няўдала), каторы мае не нацыянальны характар, а выключна клясавы.

Ён, як паніжаючы наш нацыянальны гонар, мусіць быць выкінены з беларускага рэпэртуару зусім і ні ў якім выпадку ня можа надавацца, каб лічыць яго нацыянальным гімнам.

Беларуская моладзь з ліку той, над каторай ніхто цяпер не пасьмее сьмяяцца і каторая ўмее ўладаць ня толькі „цэпам

---

— Даруй жыцьцё! — пішчэў ажырэлы крыўдзіцель, і неяк вырваўшыся з рук Лявана папёр наўцекі.

Калі Лявон црыйшоў дамоў, абачыў, як уся радня ягоная абліваецца крывавым потам, працуючы на карысьць гнабіцелям пад бізунамі цівуноў.

— Браты, даволі зьдзеку! з нашай гаспадаркі, з нашай працы — усе плады нам! Мы гаспадары нашай зямлі! Далоў крыўдзіцеляў! — галасіў Лявон. Але ягоныя браты і дзеці не разумелі яго. Яны дзівіліся з такіх клічаў і казалі яму:

— Ці-ж ты, Лявоне, забыўся, як нас вучылі: „Любіце крыўдзіцеляў вашых, рабіце дабро тым, якія вас ненавідзяць і маліцеся за тых, якія вас праследуюць і з'агіджаюць.

— Браты! — гэта навука мляўкасьці і сьмерці, навука для рабоў і нявольнікаў!

— Ды-ж гэта, кажуць, Божыя словы!

— Не! — гэта словы людзей, што хочуць панаваць над намі! Бог інакш уладае, ягонае іншае права! Я быў у лесе, бачыў там жыцьцё стварэньняў, якімі кіруе сам Бог. „Айцец ваш нябесны жывіць іх“. І я ня бачыў там жаласьці і міласэрдзя. Там права сілы. Там сьмерць слабейшага ёсьць шчасьцем дужэйшага. Там уступлівага і мляўкага чакае сьмерць. Там сільнейшыя, або хітрэйшыя пажыраюць слабейшых.

Так „Айцец ваш нябесны жывіць іх“.

Такім Бог стварыў сьвет. Такая ёсьць ягоная прырода. І мы, як частка прыроды ня ў сілах супроцьставіцца ёй. Каб ня ўмерці з голаду, каб ня згніць у ланцугох няволі.— Мусім тварыць сілу, мусім біцца з крыўдзіцелямі, адбіраць, што ёсьць нашае, каб магчы вольна гаспадарыць, не прад кім ня гнуцца! Бо лепш умерці за свабоду, чымся гніць у няволі!

Вось дзе словы жыцьцёвай праўды, словы дзеючай прыроды!

І зьмянілася радня Лявонава, зразумела жыцьцёвую праўду, пачула сілу няпераможную і пайшла праганяць крыўдзіцеляў, каб зноў вольна загаспадарыць на сваіх родных палетках.

**Ул. Казлоўшчык.**

і сярпом". рашуча выказваецца проці гэтакага „нацыянальнага гімну" і карыстацца падобнаю песьняю рабоў ня будзе.

Адзін з многіх.

## Няхлюйства ці злая воля Беларускай Акадэміі Навук у Менску

Беларуская Акадэмія Навук Камісія па вывучэньню Заходняй Беларусі выдала кніжку: „Заходняя Беларусь". Інфармацыйны Бюлетэнь № 9.

Прачытаўшы гэтую даволі вялікую кніжку, стыд бярэ за яе „навуковасьць". Адкінуўшы рэчовую статыстыку крызісовай дэпрэсыі ў Зах. Беларусі — рэшта бачынаў запоўнена дэмагагічнай камуністычнай звягай на ўсё нацыянальнае беларускае, як у Заходняй Беларусі так і ў Б.С.С.Р.

Аб „навуковасьці" гэнай кніжкі можна было-бы пісаць шмат. Мы тут падчыркнем толькі тое, што тычыцца нашага часапісу. У аддзеле: „У лагеры беларускага нацыянал - фашызма" ёсьць пададдзел: „Беларускія Нацыянал - Сацыялісты", дзе прыводзяцца цытаты з „Новага Шляху" № 2. Некаторыя цытаты перакручваюцца так, каб чытач ня мог зразумець пра што ідзе, або зразумець фальшыва. Напрыклад, перадрукоўваючы тыя сказы, дзе гаворыцца, што апрача клясавай барацьбы ёсьць і іншыя сілы, кіруючыя гістарычнымі падзеямі — між іншым цытуецца так: „Сюды, напрыклад, можна аднесьці расавую і нацыяналістычную ( у „Н. Ш." надрукована: „нацыянальную" Рэд. ) салідарнасьць, як сілу, якая з асаблівай яркасьцю выяўляецца падчас агульнай небясьпекай, ( у „Н. Ш." — „небясьпекі" Рэд. ) пагражаючай усяму народу ў цэлым."

Адно з двух: або гэткае перакручваньне сказаў з нашага часапісу зроблена сумысьля з мэтай зацямненьня сэнсу, або гэта сталася дзякуючы няхлюйству радактароў кніжкі, ці карэктараў: Як-бы там ня было у кніжцы, якая хоча быць навуковай, гэткія рэчы не павінны мець мейсца

РЭДАКЦЫЯ „НОВАГА ШЛЯХУ" ЗЬМЯНІЛА ПАМЕШКАНЬНЕ: Цяперашні адрэс: ВІЛЬНЯ БАЛТУПСКАЯ 14—6

## NA NAŠYM FRONCIE

Akružny sud u Wilni 5 čerwienia s.h. razhladaŭ sprawu našaha redaktara Uł. Kazłoŭskaha, jaki byŭ zaskaržyŭšy pastanowu Wilenskaha haradzkoha sudździ, zasudziŭšaha Uł. K. na 3 tydni aryštu, 100 zł. štrafu i sudawyja koštу. Akružny sud pastanowu haradzkoha sudździ zaćwierdziŭ. Wyšmienawany sud składaŭsia z hetkich pałakoŭ: sudździa A. Smiekałow, prakuror P. Popow, pratakolščyk I. Owsianko.

Sud u „uzasadnieniu" śćwiardžaje: 1) „što źmiest artykułaŭ „abawiazki biełaruskaha nacyjanalnaha sacyjalisty" i „čarhowyja zadańni" biezsumliwu tak u abjektyŭnym značeńni, jak i subjektyŭnym, majuć świedama dla abwinawačanaha fałšywyja, a mohučyja biazsumliwu wyklikać publičny niesupakoj wiedamaści, bo chacia-by ćwierdžańnie, što ksiandzy i papy jość prapahatarami nacyjanalnaj ciemry i palityčna-hramadzkich zababonaŭ, jość zadawalniajučym hetaha dokazam, nie patrabujučym da hetaha jakich-niebudź kamentaryjaŭ.

2) što Akružny Sud padzialaje dokazy Haradzkoha Sudu, a taja akaličnaść, što na rasprawie sudu ŭ Akružnym Sudzie abwinawačany paklikaŭsia na artykuł „Hrozny Prajaŭ" miesiačnika „Chryścijanskaja Dumka", wydawanaha z dazwołu Archijepiskapa Metrapality Wilenskaha, dzie haworycca ab palanizacyi biełaruskaj moladźi, jość ułaściwa biez značeńnia, bo nia moža heta abialić abwinawačanaha ad pastawianaha jamu zakidu, a što jość najhałaŭniejšaje, što świedamaje ŭhawaryważnie biełaruskamu nasielnictwu biezsumliŭna niepraŭdziwych tak abjektyŭna, jak i subjektyŭna wiedamaściaŭ, što ksiandzy i papy ŭ Biełarusi jość prapahatarami nacyjanalnaj ciamnoty i zababonaŭ, biazumoŭna pahražaje niebiaśpiekaj niedawieru i nienawiści nawat da kaścielnaha i carkoŭnaha duchawienstwa i naahuł wyklikańnia publičnaha niasupakoju siarod hramadzianstwa".

Usio krajowaje polskaje i biełaruskaje hramadzianstwa, znajučaje palityčna-relihijnuju sytuacyju na našych ziemlach, prosim na hety prysud źwiarnuć uwahu.

U prezydyjum abnoŭlenaha B. N. Kamitetu na 1935—36 hod uwajšli našyja siabry: *inž. Lawon Dubiejkauski* — pieršy wicestaršynia i redaktar *Uł. Kazłouski* — sekratar kamitetu.

ЛЕПШ УМЕРЦІ З ГОЛАДУ, ПАКІДАЮЧЫ ДОБРАЕ ІМЯ, ЧЫМСЯ ЗА КАВАЛАК ХЛЕБА АДРАЧЫСЯ АД СВАІХ НАЦЫЯНАЛЬНЫХ ІДЭАЛАЎ.

Рэдактар і выдавец: Ул. Казлоўскі. Галоўны рэд.: Рэдакцыйная Калегія.
Druk «PRASA» Wilnia, Zamkowa 15.

